Народная Воля
http://www.nv-online.info
1 САКАВІКА 2013 г.

СВЕЦКАЯ ХРОНІКА

# Марыян СЕРВАТКА: “Ужо і не хочацца з’язджаць з Беларусі...”

*15 сакавіка завяршаецца дыпламатычная місія Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Славакіі ў Беларусі Марыяна Серваткі.*

На развітальны прыём, што праходзіў у Доме сяброўства, прыйшла самая розная публіка — дыпламаты, палітыкі, дзеячы культуры і бізнесу. Распачынаючы вечарыну, **Марыян Серватка** адзначыў, што *“спрыянне дыялогу паміж палітычнымі сіламі ўнутры Беларусі і наладжванне сувязяў з Еўрасаюзам заўжды былі прыярытэтнымі напрамкамі дзейнасці славацкай амбасады ў Мінску”.*

Між тым дыпламат не хаваў: у яго не было ніякага жадання ехаць у Беларусь. І нават узгадаў сваё інтэрв’ю нашай газеце.

*“Калі я даваў інтэрв’ю “Народнай Волі”, спадарыня рэдактар здзівілася маёй недыпламатычнай заяве аб тым, што я не хацеў ехаць у Беларусь*, — распавёў спадар Серватка. — *Не хацеў ехаць, бо нічога не ведаў аб гэтай краіне. Зараз, калі мне паведамілі, што час вяртацца ў Славакію, неяк ужо і не хочацца...”*

За тыя амаль пяць гадоў, што Марыян Серватка правёў у Беларусі, было рэалізавана шмат цікавых беларуска-славацкіх праектаў. Адзін з апошніх атрымаў розгалас — дыпламат уласнаручна пераклаў верш **Янкі Купалы** “А хто там ідзе?”. Спадар пасол з усмешкай прызнаваўся, што падчас працы яму нават сніўся беларускі класік...

Многія з тых, каму давялося супрацоўнічаць са славацкім амбасадарам, запомняць яго ў першую чаргу як прыемнага і шчырага чалавека. Дыпламаты, што працуюць у Беларусі, скінуліся на падарунак і на развітанне прэзентавалі калегу карціну, якія спадар пасол калекцыяніруе.



Аляксандр Казулін быццам бы і сышоў з вялікай палітыкі і ўжо даўно не робіць ніякіх гучных заяў, аднак на свецкіх мерапрыемствах, якія ладзяць замежныя амбасады, ён часты госць.





На сяброўскім прыёме славацкага амбасадара былі заўважаны старшыня Партыі БНФ **Аляксей Янукевіч**, былыя кандыдаты на пасаду прэзідэнта **Уладзімір Някляеў, Віталь Рымашэўскі і Аляксандр Казулін**, прадстаўнікі каталіцкай царквы на чале з **Тадэвушам Кандрусевічам**, супрацоўнікі пасольстваў Расіі, Літвы, Польшчы, Кітая, Францыі, Германіі і іншых краін, намеснік старшыні Саюза мастакоў **Рыгор Сітніца**, мастачка **Ірына Котава**, намеснік міністра культуры **Тадэвуш Стружэцкі**, старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў **Жанна Літвіна**, праваабаронцы **Алег Гулак** і **Гары Паганяйла**, іншыя ганаровыя госці.

Чарга з жадаючых сказаць Марыяну Серватку некалькі прыемных слоў, падараваць кветкі і невялікія прэзенты расцягнулася на некалькі метраў. Тым, хто хацеў паціснуць руку амбасадару, прыйшлося стаяць у чарзе амаль паўгадзіны! Госці прызнаваліся “Народнай Волі”, што прынеслі на памяць кнігі, цукеркі і нават якасны алкаголь, знаўцам якога з’яўляецца пасол.

Дарэчы, у прысутных была эксклюзіўная магчымасць пакаштаваць і нацыянальныя славацкія напоі — баравічку і грушаўку. Гэта дапамагло зрабіць атмасферу вечара больш утульнай. Прынамсі, наколькі можа быць утульным вечар, які наведалі больш за сотню чалавек...

ТЫМ ЧАСАМ

## Анатоль Лябедзька перасеў на Infiniti?

*Нечакана закулісным героем развітальнага прыёму спадара Серваткі стаў лідар АГП Анатоль Лябедзька...*

Нехта асабліва ўважлівы з гасцей адзначыў, што на працягу ўсяго дня палітык ездзіць на прыгожым красоверы. Нават марку назвалі — Infiniti. А каштуе такое аўто не танна. Кошты на патрыманыя аўто стартуюць ад 22 тысяч долараў.

“Народная Воля” тут жа пацікавілася, на якія сродкі палітык прыдбаў машыну. Сенсацыі, праўда, не атрымалася.

*“Машыну апошні раз я мяняў гады тры таму і зусім не на дарагі пазадарожнік,* — прызнаўся “Народнай Волі” Анатоль Лябедзька. — *Часам карыстаюся аўто, якое належыць маім сваякам. Гэта сапраўды пазадарожнік, але не нісанаўскі, а ад Hyundai. І кошт яго зусім не вялікі”*.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

РЭГІЁНЫ

## Вейкі з пер’ем і стразамі — новая мода

*У Віцебску пройдзе першы ў краіне конкурс па нарошчванні веек.*

У гэтыя выхадныя ў Віцебску лепшыя беларускія майстры па нарошчванні веек пакажуць свае прафесійныя навыкі ў канцэртай зале “Віцебск”. Конкурс пройдзе ў трох намінацыях. Відовішча будзе цікавым і для простых гледачоў — ствараць вобразы канкурсантам дапамогуць цырульнікі і візажысты.

Віцебскі конкурс — адборачны тур на Міжнародны дабрачынны чэмпіянат па нарошчванні веек “Калібры Фэст”, які адбудзецца ў Маскве 27 лістапада.

## Прада дапаможа выратавальнікам

*Супрацоўнікі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях у Віцебску ствараюць уласную кіналагічную службу. Першым байцом стала трохмесячная Прада — палевы лабрадор.*

Зараз Прада вучыцца выконваць самыя простыя каманды: “сядзець”, “ляжаць”, “побач”. Пазней пачнуцца іншыя ўрокі. У сабак з МНС існуюць розныя спецыялізацыі. Адны шукаюць людзей у завалах, іншыя ратуюць людзей на вадзе і на пажарах. Прада будзе працаваць на вышуку людзей у лясным масіве. Штогод у лясах Віцебскай вобласці з пачаткам ягаднага сезона губляюцца дзясяткі людзей.

## У Жлобіне да «Дажынак» пабудуюць гатэль на 114 месцаў

*Аб’ект размесціцца побач з гарадскім спартыўна-аздараўленчым комплексам, куды ўваходзяць лядовы палац, аквапарк і некаторыя іншыя спартыўныя збудаванні.*

Мясцовыя чыноўнікі сцвярджаюць, што новы гатэль проста неабходны гораду. Каля спарткомплексу ўжо ёсць прыватныя апартаменты на 34 месцы.

Варта адзначыць, што жыхары невялікіх гарадоў з радасцю вітаюць навіну аб тым, што ў іх горад едуць “Дажынкі”. Гэтае свята — гарантыя таго, што будуць пабудаваны новыя спартыўныя і культурныя ўстановы, адрамантуюць будынкі з жылога фонду.

Напрыклад, жыхары Рагачова пісалі ліст на імя кіраўніка дзяржавы, каб “Дажынкі—2013” праходзілі на іх тэрыторыі, бо спадзяваліся, што гэта добра адаб’ецца на інфраструктуры горада.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!

## «Аперацыя «Арго» ў Мінску

*Фільм, які стаў уладальнікам «Оскара», пакажуць у беларускіх кінатэатрах. Пра гэта паведаміў генеральны дырэктар УП «Кінавідэапракат» Мінгарвыканкама Васіль Коктыш.*

Карціну пакажуць з 14 па 20 сакавіка ў адным з кіназалаў кінатэатра «Беларусь». Квіткі ўжо ў продажы.

*«Калі будзе ажыятаж, то мы гатовы працягнуць супрацоўніцтва і падоўжыць тэрміны паказу»,* — цытуе belta.by Васіля Коктыша.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Кантынент Юліі Шаровай

*Юлія Шарова. Don Giovanni, або Памілаваны свавольнік. Раман. Мінск: выдавец І.П.Логвінаў, 2012 (Электронная кніга).*



Крыху больш за паўтара года таму выдатны сучасны эсэіст і перакладчык, прэзідэнт Польскага ПЭН-Цэнтра **Адам Паморскі** ў інтэрв’ю для варшаўскай “Газеты выборчай” сказаў: *“Маладзейшае пакаленне ў беларускай літаратуры не бароніць роднае мовы простымі заклінаннямі, а ўваходзіць на прасторы культуры сусветнай, універсальнай, мадэрнісцкай альбо нават і постмадэрнісцкай — у тым ліку з ноткамі іроніі — звяртаючыся да традыцыі ўласнага гратэску. Гэтыя маладыя людзі не маюць патрэбы дэклараваць свой патрыятызм, звяртацца да ідэалогіі нацыяналізму: яны свабодна перамяшчаюцца ў свеце. Гэта — пакаленне інтэрактыўнай культуры”.*

Даючы згаданае інтэрв’ю, польскі літаратар, добры знаўца сусветнай літаратуры, меў на ўвазе не толькі творы некалькіх нашых маладых паэтаў, частку якіх ён, дарэчы, сам бліскуча пераклаў на польскую мову. Адам Паморскі ўжо тады няблага ведаў творы беларускіх празаікаў “новае хвалі”: **Сяргея Балахонава, Веры Бурлак, Наталкі Бабінай, Паўла Касцюкевіча, Алены Брава**... Мяркую, што ён убачыць яскравае і красамоўнае пацвярджэнне слушнасці сваіх высноў, калі пазнаёміцца з творам, гаворка пра які пойдзе далей.




Я напраўду мала што ведаю пра асобу **Юліі Шаровай**, але, прачытаўшы яе дэбютны раман (і тое які — ажно на 615 старонак!), некалькі дзён хадзіў крыху агаломшаны. Успомнілася дзяцінства, юнацтва, калі, бывала, прачытаеш якога-небудзь беларускага, рускага, нямецкага, амерыканскага класіка — і шкадуеш, што мусіш раптоўна развітацца з героямі, з якімі ты як бы зжыўся, з мясцінамі, дзе дзейнічалі, кахалі, перажывалі, хварэлі і, нярэдка, гінулі гэтыя героі. Дык тое былі творы класікаў, а тут — першы ў жыцці самастойны твор маладой жанчыны-аўтара, які, прызнаюся, захапіў не менш за творы сягогатага з літаратурных мэтраў.

Твор Юліі Шаровай “Don Giovanni, або Памілаваны свавольнік” выйшаў у мінскім прыватным выдавецтве **Ігара Логвінава** пакуль што толькі ў версіі электроннай кніжкі. І ў гэтым ёсць свой шарм: чытаючы яго, круціш “мышку” камп’ютара толькі ў адзін бок, адно каб не спыняцца і не вяртацца назад. Бо, калі вернешся, пачнеш, можа, вышукваць нейкія недакладнасці або нестыкоўкі. А гэтага рабіць, далібог, не хочацца.

Ствараючы свой раман, Юлія Шарова знайшла вырашэнне праблемы ягонага сэнсавага “стрыжня” ва ўмоўнай апоры на сюжэт лібрэта знакамітай оперы Вольфганга Амадэя Моцарта, якую мы прывыклі называць “Дон Жуан”, хоць у галоўнай версіі на італьянскай мове назва гучыць як “Дон Джавані”.

Своеасаблівы Дон Жуан у рамане Юліі Шаровай — гэта беларус Аляксей Грынкевіч, які працуе дырыжорам у расійскім правінцыйным оперным тэатры і нечакана пасля смерці галоўнага дырыжора атрымлівае магчымасць ажыццявіць мару свайго жыцця — паставіць “Дона Джавані” на сцэне гэтага тэатра. У інтрыгу міжвольна ўмешваюцца жанчыны, якімі захапляўся Грынкевіч: спявачка-прыгажуня Ірына, даўняя каляжанка па вучобе Маша, урэшце Ганна Рупель, якая прыязджае з Масквы, каб заняцца пастаноўкай драматычнай часткі оперы, не ведаючы, што пасля васьмі гадоў расстання яе чакае сустрэча з Аляксеем Грынкевічам... Сам Грынкевіч укладае ўсе сілы і душу ў працу з аркестрам, толькі на дзень-другі пакідаючы горад N, каб пабываць па справах у Маскве або ў Мінску ў сваіх бацькоў. Велізарныя душэўныя ўзрушэнні герояў, кожны з якіх — адметная індывідуальнасць, гарантую, не пакінуць абыякавым ніводнага сапраўднага чытача.

Вядома, нехта можа папракнуць пісьменніцу ў залішнім “гафманізме” ці нават у “дастаеўшчыне”. Раман Юліі Шаровай праз агромністую цягу яго герояў да “самакапання” і адносна слаба выяўленую часава-геаграфічную прастору тыпалагічна блізкі менавіта да расійскіх, а не да заходнееўрапейскіх або беларускіх класічных твораў гэтага жанру. Але героі гавораць па-беларуску; па-беларуску думае і аўтар рамана, нягледзячы на тое, што вялікі аб’ёмам тэкст усё-такі, на маю думку, патрабуе яшчэ больш уважлівага рэдагавання, чым тое, што зрабіла Марыя Мартысевіч. Бывае, што выхаваны (безумоўна, не без уплыву музычнай эрудыцыі) густ Юліі Шаровай здраджвае ёй: вытанчаны натуралізм мала што не перарастае ў вульгарнасць. Але талент маладой пісьменніцы выяўляецца найперш у здольнасці адначасова пісаць інтэлектуальна і цікава — так, як гэта робіць, скажам, Мілан Кундэра. Нярэдка здаецца, што вось-вось пачнецца нейкая банальшчына, ды аўтар знаходзіць усё новыя і новыя хады, каб яе пазбегнуць, у тым ліку праз адкрыты фінал твора, які, аднак, ні ў якім разе не павінен расчараваць удумлівага чытача. Юлія Шарова з двух як бы паралельных светаў стварае свой кантынент, на якім хочацца жыць, радавацца і нават пакутаваць...

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**

ПРЫСВЯЧЭННЕ



# Вяртанне “Вясёлых жабракоў”

*Гэта можа зрабіцца калі не падзеяй года ў беларускай музыцы, дык сенсацыяй — дакладна. Праз 30 гадоў праграма “Вясёлыя жабракі”, напісаная* ***Ігарам Паліводам*** *на вершы* ***Роберта Бёрнса*** *і выкананая ансамблем “Песняры”, паўстае перад слухачамі ў новым увасабленні.*

Яшчэ ў 2011 годзе былы бас-гітарыст і скрыпач “Песняроў” **Барыс Бернштэйн**, які стала жыве ў Атланце (ЗША), паставіў перад сабой мэту нагадаць шырокай грамадскасці пра таленавітага кампазітара і музыканта, свайго сябра **Ігара Паліводу** (на здымку). І зрабіць гэта ён вырашыў праз аднаўленую версію адной з праграм, якая выконвалася “Песнярамі”, але ў студыйных умовах у свой час так і не была запісана. Барыс аб’явіў аб сваіх намерах на сайце фан-клуба “Песняроў” *pesnyary.com*, звярнуўшыся па дапамогу да тых, хто мог бы паўдзельнічаць у гэтым праекце.

І такія ахвочыя адшукаліся. Як сказаў Барыс, ва ўвасабленні праграмы ўдзельнічалі ўвогуле 30 музыкантаў з 8 краін свету, у тым ліку і тыя, хто працаваў у “Песнярах”. На дапамогу ім прыйшоў інтэрнэт. Асобныя партыі запісваліся ў розных кутках свету, пасля чаго зводзіліся ў канчатковыя варыянты фанаграм.

— *Па вялікім рахунку, гэта быў скачок у невядомае*, — прызнаўся мне Барыс. — *Я ніколі не ўзяўся б за гэтую справу, калі б мяне не падтрымалі такія выдатныя музыканты, а найперш — людзі, як у першую чаргу* ***Уладзімір Ткачэнка, Мікалай Няронскі і Аляксандр Віслаўскі.***

Праца над праграмай распачалася 15 лістапада 2011 года, калі ў Таронта была запісана першая фанаграма — партыя цымбалаў у выкананні **Уладзіміра Гародкіна**. Далей да віртуальнай музычнай групы далучыліся **Аляксандр Віслаўскі** (клавішныя, вакал, бэк-вакал), **Алег “Джагер” Мінакоў, Ігар Сярых, Людміла Ісупава, Людміла Куц, Пётр Ялфімаў, Ян Жэнчак, Уладзімір Стамаці** (усе — вакал), а таксама **Яўген Бергер** (гітара), **Андрэй Матлін і Ігар Бабіч** (саксафоны), **Павел Кандрусевіч** (альт) і іншыя музыкі. **Уладзімір Ткачэнка** інструментаваў партытуры ўсіх песень і зрабіў новыя аранжыроўкі, у Беларусі матэрыял запісваўся на студыі **Аляксандра Віслаўскага,** звядзеннем усяго запісанага займаўся **Мікалай Няронскі**.

Дзеля зберажэння непаўторнасці арыгінала праграмы і як знак павагі да бездакорнага выканання ў песні “Красавица” быў пакінуты архіўны канцэртны запіс песні з удзелам **Валерыя Дайнэкі** і самога **Ігара Паліводы,** да якога ўжо цяпер была дапісана кода.

З нагоды заканчэння працы над гэтым сапраўды ўнікальным для айчыннай папулярнай музыкі праекта ў інтэрнэце паўстаў сайт www.palivoda.net, на якім “Вясёлыя жабракі” будуць выкладзены для бясплатнага пампавання, пачынаючы ад 9 сакавіка. А напярэдадні на сайце pesnyary.com адбудзецца анлайн-канферэнцыя з удзелам **Барыса Берштэйна, Мікалая Няронскага і Уладзіміра Ткачэнкі**, якія адкажуць на пытанні пра тое, як стваралася гэтая праграма.

Стваралася ў вольны час і не на дзяржаўныя зарплаты людзьмі небагатымі. Затое дакладна насамрэч творчымі і — вясёлымі!

**Дзмітрый ПАДБЯРЭЗСКІ.**

ПРЭМ'ЕРА!

# Казка для дарослых ад Аляксандра Янушкевіча

*13—14 сакавіка ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы — прэм’ера спектакля “Арабская ноч” па п’есе сучаснага нямецкага драматурга Роланда Шымельпфеніга ў пастаноўцы рэжысёра Аляксандра Янушкевіча, пра якога кажуць: “Таленавіты”.*

“Арабская ноч” — гэта гісторыя з лёгкім усходнім каларытам, у якой аб’ядналіся лёсы пяці малазнаёмых жыхароў сучаснага гарадскога квартала. Усе яны ў спякотны летні вечар воляю лёсу апынуліся ў адным і тым жа шматпавярховым жылым доме. Падзеі, якія з імі здараюцца, — на мяжы явы і сну.

Медсястра Францішка Дэке прыходзіць з працы, стомленая, кладзецца на канапу, амаль адразу ж забываючы, як правяла дзень, а потым паглыбляецца ў беспрабудны сон. Яе суседка па кватэры арабка Фаціма Мансур толькі гэтага і чакае, каб пазваніць свайму каханку Калілю, з якім салодка праводзіць вечары, пакуль Францішка спіць. Малады мужчына Петэр Карпаці, якога вельмі вабіць прыгажосць Францішкі, назірае за ёй з акна суседняга дома. Сантэхнік Ламаер робіць абход па ўсіх паверхах. Але адным вечарам парадак штодзённага рытуалу парушае... вада, якая знікае на восьмым паверсе.

Ці наважыцца Карпаці разбудзіць Францішку пацалункам? Ці магчыма даросламу чалавеку трапіць у бутэльку? Ці можа няспраўны ліфт давесці да забойства? Адказы — у пяці гісторыях, у якіх пераплецены падзеі з жыцця і сюжэты ўсходніх казак з каралямі без каралеўства і прыгажунямі, што спяць.

— *Мне падабаецца, што ў п’есе ёсць надзея на тое, што ўсё атрымаецца, што шчасце чалавека з іншым чалавекам магчыма — калі не ў 20 ці 30 год, дык у 40,* — гаворыць Аляксандр Янушкевіч. — *Атрымалася такая казка для дарослых кшталту “Тысячы і адной ночы”...*

У спектаклі заняты **Валянціна Гарцуева, Кацярына Яворская, Аляксандр Казела, Аляксандр Малчанаў, Вікторыя Чаўлытка, Марына Гардзіёнак, Аляксей Чарнігін, Аляксандр Паўлаў, Сяргей Чуб, Сяргей Рудэня.**

Дарэчы, гэтую п’есу не раз ставілі расійскія тэатры, і яна мела поспех.

## Дасье “Народнай Волі”



***Аляксандр Янушкевіч*** *— рэжысёр, акцёр, працуе ў Беларускім дзяржаўным тэатры лялек. Скончыў Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў.*

*Паставіў спектаклі “Вянчанне” паводле В.Гамбровіча, “Дзяды” паводле А. Міцкевіча, “Марынка-крапіўніца” паводле А.Вольскага, “Гісторыя аднаго горада” М. Салтыкова-Шчадрына ў Тэатры лялек і “Гулівер” паводле матываў трагедыі Сафокла “Цар Эдып” у Курганскім тэатры лялек (Расія).*



***Роланд Шымельпфеніг*** *— сучасны нямецкі драматург і рэжысёр. Яму 45 год. П’есу “Арабская ноч” ён напісаў у 2001 годзе па замове дзяржаўнага тэатра Штутгарта. Доўгі час Шымельпфеніг працаваў журналістам у Стамбуле, потым вучыўся рэжысуры ў тэатральнай школе Ота Фалькенберга ў Мюнхене.*

*Ягоныя п’есы ўяўляюць сабой своеасаблівае спалучэнне элементаў тэатра абсурду, чорнага гумару і гратэску. Менавіта гэты баланс паміж сюррэалістычным і рэалістычным, трагічным і камічным выклікае цікавасць гледача. Роланд Шымельпфеніг з’яўляецца самым папулярным сучасным драматургам Германіі. Яго п’есы ставяцца ў тэатрах Германіі, Швейцарыі, Аўстрыі.*

Народная Воля http://www.nv-online.info 1 САКАВІКА 2013 г.

ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?

# 2— 10 сакавіка

## МІНСК

### ТЭАТРЫ

**Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы**

3 — "Вячэра з прыдуркам".

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі**

2 — "Адамавы жарты".

3 — "Сталіца Эраўнд".

4 — «Спектакль №7».

5 — «Адамавы жарты».

6 — «Нязваны госць».

9, 10 — «Тры Жызэлі».

**Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета**

2 — «Серенада», «Кармен-сюита», «О Востоке и о Любви», сольны канцэрт **Алены Сало.**

3 — "Винни-Пух и все, все, все...".

5 — «Серенада", "Кармен-Сюита».

6 — Свет італьянскай оперы.

7, 9 — «Золушка».

10 — «Кащей Бессмертный", "Половецкие пляски".

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага**

2 — "Интимная комедия".

3 — "Идеальный муж".

5 — «Пане Коханку».

6 — «Эсфирь».

7 — «Распутник», "Уходил супруг от супруги».

9 — «Женихи».

10 — «Свадьба Кречинского".

**Тэатр-студыя кінаакцёра**

5, 6 — **ПРЭМ'ЕРА!** «Безымянная звезда».

7, 9 — «Средство Макропулоса».

10 — «Анна Снегина".

**Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр**

2 — "Красная Шапочка. Поколение NEXT", "Марица".

3 — "Волшебная лампа Аладдина", "Доротея".

5 — «Граф Люксембург».

7 — «Юнона и Авось».

8 — Арт-група «Беларусы».

9 — «Золотой цыпленок», "12 стульев».

10 — «Приключения бременских музыкантов», "Летучая мышь".

**Беларускі дзяржаўны тэатр лялек**

3 — «Кот в сапогах".

7 — «Осторожно, свинья!".

9 — «Красная Шапочка".

10 — «Волшебная лампа Аладдина".

**Сучасны мастацкі тэатр**

2, 10 — «Пора По Парам».

3 — «Просто Карлсон».

8 — «Фигаро.tut" — 55! Юбілей спектакля!

9 — «Турандот».

10 — «Каникулы в Простоквашино».

**Драматычны тэатр Беларускай арміі**

2 — «Ромео и Джульетта».

5, 6 — «Собака на сене».

9 — «Моцарт и Сальери".

**Новы тэатр**

3 — «Я буду жить".

**Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача**

2 — «Беласнежка і сем гномаў», "Шытая лялька Рэгедзі Эн".

3 — «Брык і Шуся шукаюць лета".

6, 7 — «Аднакласнікі».

9 — «Приключения Бибигона».

10 — «Царэўна Жабка".

**Маладзёжны тэатр эстрады**

6 — "Для Вас, любимые!", святочная канцэртная праграма.

**Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр**

2 — «Варшавская мелодия".

### КАНЦЭРТЫ

**Канцэртная зала «Мінск»**

2 — *Тыдзень маскоўскіх тэатраў у Беларусі.* "Приключения в заколдованном лесу", "Три дня в Париже".

3 — Канцэрт **Уладзіміра Маісеенкі і Уладзіміра Данільца.**

4 — Група «**Нэнсі».**

5 — Канцэрт **Сяргея Славянскага**.

6 — Канцэрт **Георгія Калдуна**.

7 — Канцэрт **Юрыя Магамаева** — эстрадны спявак, уладальнік музычнай прэміі «Адкрыццё года» тэлеканала «Ля Мінор».

8 — Ансамбль **«Чараўніцы".**

9 — **«Аромат Танго».** *Тры пары вядомых танцоўшчыкаў дапамогуць акунуцца ў храналагічны экскурс па розных эпохах танга і яго стылях.*



Канцэртная зала «Мінск», 6 сакавіка — Канцэрт Георгія Калдуна

**Белдзяржфілармонія**

3 — **Цыкл канцэртаў "Людвіг ван Бетховен".**

Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь.

Сімфанічны аркестр Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор — народны артыст Беларусі **Аляксандр Анісімаў**.

Заслужаны калектыў "Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла Рэспублікі Беларусь імя Р. Шырмы".

Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор — народная артыстка Беларусі Людміла Яфімава.

Салісты — **Ірына Крыкунова** (сапрана), **Наталля Акініна** (мецца-сапрана), **Юрый Балацько** (тэнар).

7 — *«Спявай, славянская душа!»,* святочны канцэрт фальклорнага гурта **«Купалінка».**

8 — *«Павер у каханне»,* Нацыянальны акадэмічны народны аркестр Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча. Саліст — **Пётр Ялфімаў.**

10 — Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь.

**Малая зала**

2 — Справаздачны канцэрт навучэнцаў фартэпіяннага аддзялення Гімназіі-каледжа мастацтваў імя І.В.Ахрэмчыка.

5 — Канцэрт фартэпіяннай музыкі.

6 — «Музычная гасцёўня» **Таццяны Старчанка.**

7 — *«Я запрашаю вас...»,* святочны канцэрт ансамбля салістаў **«Класік-Авангард».**

9 — Узорны хор «Tutti» дзіцячай музычнай школы мастацтваў №8 ім.Р.Шырмы.



Белдзяржфілармонія, 3 сакавіка — Цыкл канцэртаў "Людвіг ван Бетховен". Аляксандр Анісімаў.

## БРЭСТ

**Брэсцкі акадэмічны тэатр драмы**

2 — «Барские причуды».

3 — «Прымакі».

9 — *«Весна идет»,* канцэрт сімфанічнага аркестра.

10 — **ПРЭМ'ЕРА!** "Пойти и не вернуться".

**Гастролі Беларускага дзяржаўнага маладзёжнага тэатра**

6 — "Банкрот".

7 — Полоумный Журден".

**Брэсцкі тэатр лялек**

3 — "Любопытный слоненок".

9 — "Доктор Айболит".

10 — "Винни Пух".

## ВІЦЕБСК

**"Лялька"**

2 — «Волк и раз, два, три».

3 — «Бука".

9 — «Отважные братья».

10 — «Осторожно, Соня!".

## ГОМЕЛЬ

**Гомельскі абласны драматычны тэатр**

2, 3, 8 — "Верная жена".

2 — "Золотое счастье, или Еще раз про курочку Рябу".

5, 6 — *"Любовь как сон",* саліст ВІА "Синяя птица" **Аляксандр Звяровіч**.

7 — "Между небом и землей».

10 — «Безумный день, или Женитьба Фигаро».

**Гомельскі гарадскі маладзёжны тэатр**

2, 5 — «Рождение».

3 — «Любишь — не любишь».

6 — «Я стою у ресторана: замуж — поздно, сдохнуть — рано».

9 — «На второй день...».

10 — «Чума на оба ваши дома!.. Ромео и Джульетта P.S.».

**Гомельскі тэатр лялек**

2 — «Считаю до пяти...».

3 — «Осенние фантазии ослика Иа".

9 — «Авария, стой!».

10 — «Привет, Красная Шапочка!".

## ГРОДНА

**Гродзенскі абласны драматычны тэатр**

3 — «Оранжевый ежик».

5 — «Свободная пара».

7 — «Кьоджинские перепалки».

9 — «Возвращение Дон Жуана».

10 — «Айболит и Бармалей».

Танц-тэатр «Галерея» з праграмай «Утро понедельника».

**Гродзенскі абласны тэатр лялек**

3 — «Принцесса на горошине".

9 — «Три поросенка».

10 — «Сказки Пушкина".

## МАГІЛЁЎ

**Магілёўскі абласны драматычны тэатр**

2 — «Братишки».

3 — «Волшебник Изумрудного города", "Мужчина к празднику".

6, 7 — «Шут Балакирев, или Придворная комедия».

9 — «Камедыя ethno happening».

10 — «Исчезновение принцессы», "Сильвия".

## ВЕРНІСАЖ

**У Нацыянальным гістарыч-ным музеі** — выстава ***"Салон-атэлье пачатку ХХ ст.",*** прымеркаваная да Міжнароднага жаночага дня.

**Дом-музей І з'езда РСДРП**

6 сакавіка — прэзентацыя асабістых рэчаў і фатаграфій **Ларысы Александроўскай,** першай у Беларусі народнай артысткі СССР (1940), першай жанчыны-рэжысёра оперы. Прэзентацыя праводзіцца ў рамках доўгатэрміновага выставачнага праекта "Першыя".

**Цэнтральная навуковая біблі-ятэка імя Я.Коласа Акадэміі навук**

6 сакавіка — адкрыццё гістарычнай выставы ***«Сакавік 1968».*** Выстава прысвечана падзеям сакавіка 1968 года — адному з найважнейшых перыядаў у гісторыі Польшчы пасля Другой сусветнай вайны.

## ПОНЕДЕЛЬНИК, 4 МАРТА

### Беларусь 1

**06.00, 07.15, 08.20** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** «Новости».
**07.05, 08.05** «Деловая жизнь».
**07.10, 08.10, 19.40, 23.40** «Зона Х».
**09.10** «В центре внимания».
**10.00 «Жандарм в Нью-Йорке».** Худ.фильм.
**12.10** «Клуб редакторов».
**12.55** «Вокруг планеты».
**13.45** «Журналистское расследование».
**14.25** «Тайны следствия».
**15.10, 18.40** «Новости региона».
**15.25 «Стритрейсеры».** Худ. фильм.
**17.20** «Все путем!».
**17.45** «Мистические истории».
**19.20** «Специальный репортаж».
**20.00** «Форум».
**21.00** «Панорама».
**21.45 «Сваты-3».** Сериал.
**00.10** «День спорта».
**00.25 «Звездные врата. Первый отряд».** Сериал.

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** «Наши новости».
**06.05** «Наше утро».
**09.05** «Контуры».
**10.05** «Жить здорово!».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** «Новости спорта».
**11.10 «2 дня».** Худ.фильм.
**13.10** «Доброго здоровьица!».
**14.10** «Модный приговор».
**15.10 «Обручальное кольцо».** Сериал.
**16.15** «Теория невероятности».
**16.55** «Давай поженимся».
**18.20** «Обратный отсчет».
**19.00** «Жди меня».
**20.00** «Время».
**21.05** «Открытый формат».
**22.10** «Вечерний Ургант».
**22.50** «Ирина Купченко. Необыкновенное чудо».
**23.50 «До смерти красива».** Сериал.
**00.40** «Ночные новости».

### РТР-Беларусь

**07.00** «Утро России».
**10.00** «Картина мира».
**10.55** «Погода на неделю».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** «Вести».
**11.30** «Утренняя почта».
**12.00** «Прямой эфир».
**12.50 «По горячим следам».** Сериал.
**13.50, 16.50, 19.50, 00.15** «Новости — Беларусь».
**14.30** «1000 мелочей».
**15.10** «О самом главном».
**15.55 «Пелагия и белый бульдог».** Сериал.
**17.30** «Местное время. Вести — Москва».
**17.45** «Вести. Дежурная часть».
**17.55 «Тайны института благородных девиц».** Сериал.
**18.50 «Ефросинья. Таежная любовь».** Сериал.
**20.30 «Принцесса и нищенка».** Сериал.
**22.20 «Бедные родственники».** Сериал.
**00.25** «Дежурный по стране». Михаил Жванецкий.

### НТВ-Беларусь

**06.00** «НТВ утром».
**08.10 «Возвращение Мухтара».** Сериал.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 23.05** «Сегодня».
**10.20** «Русские сенсации».
**11.10** «До суда».
**12.05** «Суд присяжных».
**13.25** «Суд присяжных. Окончательный вердикт».
**14.25 «Супруги».** Сериал.
**15.15** «Дело вкуса».
**15.35, 18.35** «Обзор. Чрезвычайное происшествие».
**16.25** «Прокурорская проверка».
**17.40** «Говорим и показываем».
**19.35 «Морские дьяволы».** Сериал.
**23.25** «Сталин с нами». Док.фильм.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 часа».
**06.10, 17.20** «Минщина».
**06.20, 07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.40, 20.10, 22.55** «СТВ-спорт».
**09.00** «Неделя».
**10.10** «Представьте себе».
**10.40** «Под защитой».
**11.10, 17.30** "Званый ужин».
**12.05** "Семейные драмы".
**13.00** «Женщины ХХ века».
**13.50** «Большой город».
**14.25** «Звездный ринг».
**15.25** Концерт Михаила Задорнова.
**16.20** «Наше дело».
**16.50 «Следаки».** Сериал.
**18.30 «Слово женщине».** Сериал.
**20.00** «Столичные подробности».
**20.15** «Добрый вечер, малыш!».
**20.30 «Судный день».** Худ.фильм.
**23.00** «Военная тайна».
**00.45** «Адская кухня-2».

### Беларусь 2

**07.00** «Утро».
**09.00, 21.20** «Тэлебарометр».
**09.05, 17.55 «Следствие ведет Да Винчи».** Сериал.
**10.10** «Навіны надвор'я».
**10.45, 00.00** «Самобытные культуры». Док.сериал.
**11.15 «На спине у черного кота».** Худ.фильм.
**13.05 «Женитьба Бальзаминова».** Худ.фильм.
**14.55** «Под грифом «Известные».
**15.30, 21.30 «Журов».** Сериал.
**16.45** «Белорусское «Времечко».
**18.55 «Украсть Бельмондо».** Сериал.
**20.45** «Империя песни».
**21.25** «КЕНО».
**22.35** «Овертайм».
**23.05** Футбол. Чемпионат Англии. Обзор тура.

### Мир

**05.00 «Огонь любви».** Сериал.
**05.50** «Робин Гуд».
**06.20** «Тик-так».
**06.50** «Джейми: обед за 30 минут».
**07.20 «Сердцу не прикажешь».** Сериал.
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** «Новости Содружества».
**09.10** «Вместе».
**10.00 «Берегите мужчин!».** Худ. фильм.
**11.30** «Общий интерес».
**12.25** «Общий рынок».
**12.40** «Новости Содружества. Культура».
**13.15 «Жаркий лед».** Сериал.
**15.25 «Обручальное кольцо».** Сериал.
**17.00, 22.45** «Слово за слово».
**18.30** «Акценты».
**18.45, 01.50 «Закон и порядок».** Сериал.
**21.25, 04.25** «Мир спорта».
**21.55, 03.40** «В мире секретных знаний».
**23.35 «Зимняя вишня».** Сериал.
**01.25** «Сделано в СССР».

### Белсат

**07.00, 14.45** "ПраСвет".
**07.25, 11.50** "Зона «Свабоды».
**07.55, 15.10** "Кулінарныя падарожжы Роберта Макловіча".
**08.20, 15.35** "МакраФон". "Салідарныя з Беларуссю-2012". Выступленне "Maleo Reggae Rockers".
**08.40, 15.55** "Усё нашае жыццё — сацарт". Дак.фільм.
**09.20** "Два на два".
**09.45** "Euromaxx".
**10.15, 16.50** "Форум".
**11.05 "Сенсацыі ХХ стагоддзя".** Серыял.
**12.25, 21.45 "Журэк".** Маст.фільм.
**13.35** "Эксперт".
**14.05** "Невядомая Беларусь". "Цені ўлады". Рэпартаж.
**16.35** "Моўнік".
**17.35** "Відзьмо-невідзьмо".
**18.05** "Еўропа сёння".
**18.30** "Гісторыя пад знакам "Пагоні".
**18.45** "Калыханка для самых маленькіх".
**19.00, 19.15, 19.20, 19.30, 20.00, 20.10, 20.15, 21.40, 23.35** "Студыя "Белсат".
**20.35, 01.05** "Асабісты капітал".
**21.00, 01.25** "Аб'ектыў".
**21.25, 01.55** "Не прапусці!".
**23.00** "Куды адплылі пінскія караблі?". Рэпартаж.
**02.10** "Калыханка" ад Сашы і Сірожы".

## ВТОРНИК, 5 МАРТА

### Беларусь 1

**06.00, 07.15, 08.20** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** «Новости».
**07.05, 08.05** «Деловая жизнь».
**07.10, 08.10, 19.40, 23.50** «Зона Х».
**09.10, 17.40 «Маруся. Испытания».** Сериал.
**10.05, 20.00 «Джамайка».** Сериал.
**11.00** «Под солнцем».
**12.10** «Специальный репортаж».
**12.30** «Будь в тонусе!».
**13.00 21.55 «Сваты-3».** Сериал.
**15.15, 18.40** «Новости региона».
**15.25, 00.40 «Жемчужина дворца».** Сериал.
**16.50** «Здоровье».
**19.20** «Сфера интересов».
**21.00** «Панорама».
**00.25** «День спорта».
**01.45 «Звездные врата. Первый отряд».** Сериал.

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** «Наши новости».
**06.05** «Наше утро».
**09.05** «Жить здорово!».
**10.20** «Понять. Простить».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** «Новости спорта».
**11.10** «Дешево и сердито».
**12.05 «Неравный брак».** Сериал.
**13.10** «Доброго здоровьица!».
**14.10** «Модный приговор».
**15.10 «Обручальное кольцо».** Сериал.
**16.15** «Теория невероятности».
**16.55** «Давай поженимся!».
**18.20 «Два с половиной человека».** Сериал.
**18.50** «Пусть говорят».
**20.00** «Время».
**21.05 «Есенин».** Сериал.
**23.20** «Вечерний Ургант».
**00.00** «Задиры».
**01.10** «Ночные новости».

### РТР-Беларусь

**07.00** «Утро России».
**10.05** «Дело Х. Следствие продолжается».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** «Вести».
**11.30** «Честный детектив».
**12.00** «Прямой эфир».
**12.50 «По горячим следам».** Сериал.
**13.50, 16.50, 19.50, 00.15** «Новости — Беларусь».
**14.30** «1000 мелочей».
**15.10** «О самом главном».
**15.55 «Пелагия и белый бульдог».** Сериал.
**17.30** «Местное время. Вести — Москва».
**17.45** «Вести. Дежурная часть».
**17.55 «Тайны института благородных девиц».** Сериал.
**18.50 «Ефросинья. Таежная любовь».** Сериал.
**20.30 «Принцесса и нищенка».** Сериал.
**22.20 «Бедные родственники».** Сериал.
**00.25** «Специальный корреспондент».

### НТВ-Беларусь

**06.00** «НТВ утром».
**08.10 «Возвращение Мухтара».** Сериал.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 23.20** «Сегодня».
**10.20** «Чистосердечное признание».
**11.00** «До суда».
**12.00** «Суд присяжных».
**13.25** «Суд присяжных. Окончательный вердикт».
**14.25 «Супруги».** Сериал.
**15.15** «Дело вкуса».
**15.40, 18.35** «Обзор. Чрезвычайное происшествие».
**16.25** «Прокурорская проверка».
**17.35** «Говорим и показываем».
**19.30 «Оружие».** Сериал.
**23.45 «Чужой район».** Сериал.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 часа».
**06.10, 17.20** «Минщина».
**06.20, 07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.40, 20.10, 22.55** «СТВ-спорт».
**09.00** «Большой завтрак».
**09.40** «Такова судьба».
**10.40** «Под защитой».
**11.10, 17.30** «Званый ужин».
**12.05** «Семейные драмы».
**13.00** «Центральный регион».
**13.50 «Наркоз».** Худ.фильм.
**15.30** «Странное дело».
**16.50 «Следаки».** Сериал.
**18.30 «Слово женщине».** Сериал.
**20.00** «Столичные подробности».
**20.15** «Добрый вечер, малыш!».
**20.30 «Городской охотник».** Худ. фильм.
**23.00** «Живая тема».
**23.55** «Автопанорама».
00.15 **«Белые волки».** Сериал.

### Беларусь 2

**07.00** «Утро».
**09.00, 21.20** «Тэлебарометр».
**09.05, 17.55 «Покушение».** Сериал.
**10.10** Футбол. Чемпионат Англии. Обзор тура.
**11.05** «Овертайм».
**11.40** «Репортер «Белорусского времечка».
**12.35, 18.55 «Украсть Бельмондо».** Сериал.
**14.30** «Самобытные культуры».
**15.30, 21.30 «Журов-2».** Сериал.
**16.45** «Белорусское «Времечко».
**21.25** «КЕНО».
**22.35** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. 1/8 финала. «Манчестер Юнайтед»—«Реал». Прямая трансляция.
**00.40** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. «Дортмунд»—«Шахтер».

### Мир

**05.00 «Огонь любви».** Сериал.
**05.50** «Робин Гуд».
**06.20** «Тик-так».
**06.50** «Джейми: обед за 30 минут».
**07.20 «Сердцу не прикажешь».** Сериал.
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** «Новости Содружества».
**09.10** «Двое».
**10.00 «Двое в новом доме».** Худ. фильм.
**11.30** «Путеводитель».
**12.25 «Жаркий лед».** Сериал.
**15.25 «Обручальное кольцо».** Сериал.
**17.00, 22.45** «Слово за слово».
**18.30** «Акценты».
**18.45, 01.50«Закон и порядок».** Сериал.
**21.25, 04.25** «Союзники».
**21.55, 03.40** «Эпоха. События и люди».
**23.35 «Зимняя вишня».** Сериал.
**01.25** «Всюду жизнь».

### Белсат

**07.00, 11.50, 19.00, 19.15, 19.20, 19.30, 20.00, 20.15, 21.30, 21.40, 23.35, 02.00** "Студыя "Белсат".
**08.35, 13.25** "Асабісты капітал".
**08.55, 13.50, 21.00, 01.35** "Аб'ектыў".
**09.20, 14.15** "Не прапусці!".
**09.40, 14.35** "Еўропа сёння".
**10.10, 15.05 "Надзея".** Маст. фільм.
**16.40 "Новенькая".** Серыял.
**17.30** "Эксперт".
**18.00** "На колах".
**18.30** "Без межаў".
**18.45** "Калыханка для самых маленькіх".
**20.30, 01.10** "Рэмарка".
**21.45 "Доктар Марцін".** Серыял.
**22.35** "Назад у будучыню".
**22.50** "Форум".
**02.20** "Калыханка" ад Сашы і Сірожы".

## СРЕДА, 6 МАРТА

### Беларусь 1

**06.00, 07.15, 08.20** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** «Новости».
**07.05, 08.05** «Деловая жизнь».
**07.10, 08.10, 19.40, 23.55** «Зона Х».
**09.10, 17.45 «Маруся. Испытания».** Сериал.
**10.05, 19.55 «Джамайка».** Сериал.
**11.00** «Под солнцем».
**12.10** «Актуальное интервью».
**12.25, 19.20** «Сфера интересов».
**12.40** «Завтра — это мы!».
**13.10, 21.45 «Сваты».** Сериал.
**15.15, 18.40** «Новости региона».
**15.25, 00.40 «Жемчужина дворца».** Сериал.
**16.50** «Земельный вопрос».
**17.15** «Врачебные тайны».
**21.00** «Панорама».
**00.25** «День спорта».
**01.45 «Звездные врата. Первый отряд».** Сериал.

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** «Наши новости».
**06.05** «Наше утро».
**09.05** «Жить здорово!».
**10.20** «Понять. Простить».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** «Новости спорта».
**11.10** «Дешево и сердито».
**12.05 «Неравный брак».** Сериал.
**13.10** «Доброго здоровьица!».
**14.10** «Модный приговор».
**15.10 «Обручальное кольцо».** Сериал.
**16.15** «Теория невероятности».
**16.55** «Давай поженимся!».
**18.20 «Два с половиной человека».** Сериал.
**18.50** «Пусть говорят».
**20.00** «Время».
**21.05 «Есенин».** Сериал.
**23.20** «Вечерний Ургант».
**00.00** «Замуж за принца».
**01.00** «Ночные новости».

### РТР-Беларусь

**07.00** «Утро России».
**10.05** «Дело Х. Следствие продолжается».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** «Вести».
**11.30 «ХА!».** Маленькие комедии.
**12.00** «Прямой эфир».
**12.50 «По горячим следам».** Сериал.
**13.50, 16.50, 19.50, 00.15** «Новости — Беларусь».
**14.30** «1000 мелочей».
**15.10** «О самом главном».
**15.55 «Пелагия и белый бульдог».** Сериал.
**17.30** «Местное время. Вести — Москва».
**17.45** «Вести. Дежурная часть».
**17.55 «Тайны института благородных девиц».** Сериал.
**18.50 «Ефросинья. Таежная любовь».** Сериал.
**20.30 «Принцесса и нищенка».** Сериал.
**22.20 «Бедные родственники».** Сериал.
**00.25** «Тайна горы мертвецов. Перевал Дятлова».

### НТВ-Беларусь

**06.00** «НТВ утром».
**08.10 «Возвращение Мухтара».** Сериал.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 23.20** «Сегодня».
**10.20** «Следствие вели...».
**11.10** «До суда».
**12.05** «Суд присяжных».
**13.25** «Суд присяжных. Окончательный вердикт».
**14.25 «Супруги».** Сериал.
**15.15** «Дело вкуса».
**15.40, 18.35** «Обзор. Чрезвычайное происшествие».
**16.25** «Прокурорская проверка».
**17.35** «Говорим и показываем».
**19.30 «Оружие».** Сериал.
**23.45 «Чужой район».** Сериал.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 часа».
**06.10, 17.20** «Минщина».
**06.20, 07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.40, 20.10, 22.55** «СТВ-спорт».
**09.00** «Час суда».
**10.05** «Автопанорама».
**10.40** «Под защитой».
**11.10, 17.30** «Званый ужин».
**12.05** «Семейные драмы».
**13.00** «Минск и минчане».
**13.50 «Городской охотник».** Худ. фильм.
**15.35** «Живая тема».
**16.50 «Следаки».** Сериал.
**18.30 «Слово женщине».** Сериал.
**20.00** «Столичные подробности».
**20.15** «Добрый вечер, малыш!».
**20.40 «Красотки».** Худ.фильм.
**23.00** «Секретные территории».
**23.55** «Добро пожаловаться».
**00.15 «Белые волки».** Сериал.

### Беларусь 2

**07.00** «Утро».
**09.00, 21.20** «Тэлебарометр».
**09.05, 17.55 «Покушение».** Сериал.
**10.10** «Наперад у мінулае».
**10.45 «Задача с тремя неизвестными».** Худ.фильм.
**12.40, 18.55 «Украсть Бельмондо».** Сериал.
**14.40 «Прикованный».** Худ.фильм.
**16.45** «Белорусское «Времечко».
**21.25** «Спортлото 5 из 36».
**21.30** «КЕНО».
**21.35** «Под грифом «Известные».
**22.05** «Фактор силы».
**22.35** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. 1/8 финала. ПСЖ—«Валенсия». Прямая трансляция.
**00.40** Футбол. Лига чемпионов УЕФА 1/8 финала. «Ювентус»—«Селтик».

### Мир

**05.00 «Огонь любви».** Сериал.
**05.50** «Робин Гуд».
**06.20** «Тик-так».
**06.50** «Джейми: обед за 30 минут».
**07.20 «Сердцу не прикажешь».** Сериал.
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** «Новости Содружества».
**09.10** «Династия».
**10.00 «Свадебный подарок».** Худ. фильм.
**11.30** «Незвездное детство».
**12.25 «Жаркий лед».** Сериал.
**15.25 «Обручальное кольцо».** Сериал.
**17.00, 22.45** «Слово за слово».
**18.30** «Акценты».
**18.45, 01.50 «Закон и порядок».** Сериал.
**21.25, 04.25** «Секретные материалы».
**21.55, 03.40** «В мире прошлого».
**23.35 «Зимняя вишня».** Сериал.
**01.25** «Добро пожаловать».

### Белсат

**07.00, 09.25, 11.55, 14.20, 19.00, 19.15, 19.20, 19.30, 20.00, 20.15, 21.25, 21.40, 23.45, 02.05** "Студыя "Белсат".
**08.30, 13.25** "Рэмарка".
**09.00, 13.55, 21.00, 01.40** "Аб'ектыў".
**09.45, 14.40** "На колах".
**10.10, 15.10 "Доктар Марцін".** Серыял.
**11.00** "Вагон".
**11.05, 15.55** "Форум".
**16.45 "Час гонару".** Серыял.
**17.30** "Асабісты капітал".
**17.50** "Гісторыя пад знакам "Пагоні".
**18.05** "Праект "Будучыня".
**18.30** "Беларусы ў Польшчы".
**18.45** "Калыханка для самых маленькіх".
**20.35, 01.20** "Маю права".
**21.45 "Ночы і дні".** Серыял.
**22.40** "Два на два".
**23.05** "Невядомая Беларусь". "Цені ўлады". Рэпартаж.
**02.25** "Калыханка" ад Сашы і Сірожы".

